# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ




**Свабода! Справядлівасць! Салідарнасць!**

*Думаем пра кожнага - працуем разам!*

Бюлетэнь БСДП, г. Магілёў, №5, чэрвень 2013г.

**Мы, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)!**
**Мы, партыя справядлівасці!**
**Мы выступаем за дастойны ўзровень жыцця, большыя эканамічныя магчымасці і адмену працоўных кантрактаў.**
**Мы лічым, што паляпшэнне жыцця ў краіне можа адбывацца толькі праз вяршэнства закона. Мы за рэальнае раўнапраўе жанчын і мужчын.**
**Мы перакананыя, што медыцына мусіць быць даступнай, а адукацыя сучаснай. Мы за тое, каб прафсаюзы былі незалежнымі, а людзі наймальнай працы сталі асновай сярэдняга класа. Мы гарантуем абарону пенсіянерам і тым сацыяльным групам, якім яна неабходна.**
**Дайце будучыню і надзею сабе і сваім дзецям!**

## САЦІНТЭРН ЗАКЛІКАЕ ПРЫПЫНІЦЬ ПЕРАСЛЕД БЕЛАРУСКІХ АПАЗІЦЫЙНЫХ ЛІДАРАЎ І ВЫЗВАЛІЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**Адпаведная дэкларацыя была прынята ў другі дзень пасяджэння Камітэта Сацыялістычнага інтэрнацыяналу краін СНД, Каўказа і Чарнаморскага рэгіёну, які праходзіў 3-4 чэрвеня ў сталіцы Грузіі Тбілісі.**

У прынятай дэкларацыі датычна Беларусі адзначаецца, што Камітэт выражае поўную салідарнасць з народам Беларусі ў яго змаганні за свабоду, дэмакратыю, незалежнасць і захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці. Працягваючыяся сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека кіруючым рэжымам выклікаюць сум і ў сувязі з гэтым Камітэт заклікае пакласці канец пераследу апазіцыйных лідараў, вызваліць і рэабілітаваць палітычных вязняў, у тым ліку **Міколу Статкевіча**, лідара аргкамітэта Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), які з'яўляецца чальцом Сацыялістычнага Інтэрнацыянала.


На фота Генеральны сакратар Сацінтэрна Луіс Аяла і намеснік старшыні БСДП Ігар Барысаў

Каментуючы сітуацыю з Беларусяй Генеральны сакратар Сацінтэрна **Луіс Аяла** адзначыў, што ягоная арганізацыя прыстальна сочыць за тым, што адбываецца ў нашай краіне.

"Мы перажываем за народ Беларусі і праяўляем з ім салідарнасць у яго барацьбе за свабоду і дэмакратыю. Спадзяюся, што ўлада адумаецца і знойдзе шляхі для вызвалення палітвязняў. Мы стабільны ў сваёй пазіцыі і на міжнародным узроўні будзем тлумачыць усім, што ўяўляе сабой рэжым Лукашэнкі", - адзначыў Луіс Аяла.

У пасяджэнні Камітэта прыняў удзел намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) **Ігар Барысаў**, а таксама жонка палітвязня Мікалая Статкевіча **Марына Адамовіч**.

Падчас пасяджэння прадстаўнікі краін-удзельніц знаёмілі ўсіх прысутных з сітуацыяй унутры сваіх дзяржаў. Выступы ўдзельнікаў шырока абмяркоўваліся.

З адпаведным дакладам выступіў і Ігар Барысаў.

"Дадзеныя сустрэчы вельмі карысныя і дазваляюць разабрацца ў разнастайных пытаннях. Толькі тыя, хто жывуць у сваіх краінах ведаюць рэальны стан рэчаў і карані разнастайных праблем. Падчас сустрэч зараджаюцца новыя знаёмствы, умацоўваюцца існуючыя кантакты, прапаноўваюцца варыянты разнастайнага супрацоўніцтва", - гаворыць Ігар Барысаў.

Сацыял-дэмакрат адзначае, што сустрэча ў Тбілісі ў чарговы раз паказала, што кіраўніцтва Сацінтэрна валодае рэальнай сітуацыяй таго, што адбываецца ў Беларусі і салідарна з беларусамі.

Варта адзначыць, што ў пасяджэнні Камітэта Сацыялістычнага інтэрнацыяналу краін СНД, Каўказа і Чарнаморскага рэгіёну прынялі ўдзел прадстаўнікі Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Венгрыі, Грузіі, Казахстана, Малдовы, Турцыі і Украіны.

**Прэс-служба БСДП**

# ІРЫНА ВЕРШТАРД: Я НЕ ЗБІРАЮСЯ ДЗЕЛЯ АСАБІСТЫХ АМБІЦЫЙ АХВЯРАВАЦЬ АДЗІНСТВАМ АПАЗІЦЫІ

**Шэрагі прыхільнікаў Народнага рэферэндуму папоўніліся Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй (Грамадой). 26 мая прэзідыум БСДП падтрымаў ідэю Народнага рэферэндуму.**




На фота старшыня БСДП Ірына Вештард

7 чальцоў Прэзідыума прагаласавалі «за», трое - «супраць», двое ўстрымаліся. Старшыня партыі Ірына Вештард разам з удзелам у рэалізацыі Народнага рэферэндуму не выключае сумеснага ўдзелу ў мясцовай, прэзідэнцкай і парламенцкай кампаніях - разам з БНФ, рухам «За свабоду» і кампаніяй «Гавары праўду».

Пры гэтым сама Ірына Вештард гатовая, калі спатрэбіцца, вылучацца кандыдатам у прэзідэнты. Хоць самая вялікая мара лідара Грамады - «убачыць адзінства апазіцыі, якая вылучыць адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года».

Аб выніках пасяджэння прэзідыума БСДП і планах на прэзідэнцкую кампанію Ірына Вештард распавяла «Беларускаму партызану».

**- Ірына Зянонаўна, Грамада падтрымала ідэю Народнага рэферэндуму. Чым яна спадабалася сацыял-дэмакратам?**

- Ёсць вельмі важная і важкая прычына - магчымасць працаваць. Сумесная праца робіць нас больш згуртаванымі і моцнымі, таму што калі ляжаць на канапе і чакаць манны нябеснай - мы нічога не атрымаем.

Таму мы выступаем за пашырэнне сумеснай працы ўсіх дэмакратычных сіл і за пашырэнне шэрагаў сваіх прыхільнікаў. Мы - за сумесную працу.

**- У якім фармаце Грамада ўдзельнічае ў рэалізацыі Народнага рэферэндуму?**

- Спачатку сустрэнемся з прадстаўнікамі Партыі БНФ, кампаніі «Гавары праўду» і руху «За свабоду» - паглядзім, падумаем. Трэба разам працаваць з насельніцтвам, размаўляць з людзьмі. Па меры руху наперад будзем бачыць, якія праблемы турбуюць людзей больш, якія - менш, якія трэба вырашаць у першую чаргу, якія могуць трохі пачакаць.

Спачатку трэба даведацца, чаго хоча народ. Карэктывы заўсёды можна ўнесці.

**- Народны рэферэндум разлічаны на мясцовую, прэзідэнцкую і парламенцкія кампаніі. Ці азначае Ваш удзел у Народным рэферэндуме сумесны ўдзел і ў трох электаральных кампаніях?**

- Выключаць нічога нельга. Калі атрымаецца сумесная праца, то, адпаведна, мы станем больш моцнымі, а вынікі стануць больш важнымі, важкімі. А ў канцы мы будзем задаволенымі.

**- Лідар "Нашага дома" Вольга Карач не хавае сваіх прэзідэнцкіх амбіцый і лічыць, што жанчыне прасцей і лягчэй перамагчы альфа-самца Лукашэнку. Жанчыне з вопытам, варта разумець, яшчэ прасцей. Вы не задумваліся аб сваім вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты?**

- Ведаеце, я хацела б дамагчыся і імкнуся да адзінства апазіцыі, да вылучэння на прэзідэнцкія выбары адзінага кандыдата ад апазіцыі. Калі з майго боку спатрэбіцца саступка дзеля адзінства апазіцыі - у мяне хопіць мужнасці зрабіць гэты крок. Я не стаўлю на першае месца сябе, родную; і я не збіраюся дзеля сваіх асабістых амбіцый ахвяраваць адзінствам апазіцыі.

Самая вялікая мая мара - убачыць адзінства апазіцыі, якая вылучыць адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. І каб народ больш не казаў: «Божа, колькі вас шмат! І ўсе вы імкнецеся кіраваць краінай?»

Я не выключаю ніякіх варыянтаў - у жыцці ўсялякае магчыма.

# БЯСПЛАТНАЯ МЕДЫЦЫНА – ДЫСКУСІІ Ў БЕРАСЦІ

**Круглы стол у пытаннях бясплатнай медыцыны зладзілі сябры берасцейскай абласной аргнізацыі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады). Яны падвялі вынікі працы цягам некалькіх месяцаў у гэтым кірунку.**

Старшыня абласной арганізацыі партыі Ігар Маслоўскі кажа, што прадстаўнікі ўлады так і не выказалі свайго меракавання адносна платнага наведвання паліклінік:

– Публічнага асуджэння старшыні гарвыканкама Дзічкоўскага мы не пачулі ад прадстаўнікоў уладаў ці праўладных арганізацый, але і публічнай ухвалы яго ідэі па ўводзе платы за наведванне паліклінікі ды знаходжання ў лякарнях таксама не прагучала. І для нас гэта самае галоўнае, гэта тое, што патрэбна людзям.

“Тэма платнага наведвання паліклінік не атрымала развіцця і падтрымкі іншых чыноўнікаў ці органаў улады”, – дадае палітык. А менавіта агалоска і была галоўнай мэтай кампаніі “За бясплатную медыцыну”. Падобныя круглыя сталы ўжо адбыліся ў Баранавічах і Белаазёрску.

# МЕЖДУНАРОДНЫЙ ДЕНЬ ЗАЩИТЫ ДЕТЕЙ

**Конкурс детского рисунка, спортивные соревнования и другую культурно-развлекательную программу организовали для детей активисты Белорусской социал-демократической партии (Грамады) и кампании «Говори правду» в Международный день защиты детей в Бресте и Белоозерске.**

1 июня брестские социал-демократы традиционно в парке отдыха 1 мая провели конкурс детского рисунка на асфальте и другие мероприятия. Мероприятие было приурочено к Международному дню защиты детей. В конкурсе приняли участие около 20 детей со своими родителями. «Конкурс прошёл достаточно интересно. Дети были в замечательном настроении. Очень поразила детская солидарность, когда они с таким желанием и радостью раздавали партийные флажки и шарики «Говори правду» своим сверстникам и приглашали их принять участие в совместных соревнованиях. Наиболее любимыми темами рисунка у детей были: семья, мама и папа, мир, труд, природа, герои современных мультфильмов» -. прокомментировала итоги мероприятий **Наталья Галанина**, руководитель гендерного направления в областной организации БСДП.

По результатам конкурса были выявлены победители, вручены детские призы. В качестве поощрительного приза все дети получили право бесплатно прокатиться на аттракционах.

Накануне (31 мая) женщины БСДП в г. Бреста провели семинар по раскрытию лидерского потенциала



женщин, имеющих активную жизненную и политическую позицию.

**Пресс-служба Брестской областной организации БСДП**

# У БАРАНАВІЧАХ ЗАБАРОНЕНЫ ФЭСТ ПАМЯЦІ КАСІНЕРАЎ 1863 ГОДА

**Баранавіцкі райвыканкам забараніў Мілавідскі фэст, прысвечаны 150-м угодкам Мілавідскай бітвы.**

Баранавіцкі райвыканкам забараніў Мілавідскі фэст, запланаваны грамадскасцю горада і раёна на 2 чэрвеня 2013 года і прысвечаны 150-м угодкам Мілавідскай бітвы 1863 года. Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Філанчука, які атрымалі арганізатары фэста Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат і Тэрэса Селівончык, піша ПЦ "Вясна".

У адказе раённага чыноўніка паведамяецца, што "...ў гэты дзень і ў гэтым месцы аддзел культуры Баранавіцкага райвыканкама запланаваў правядзенне мерапрыемства ў сувязі з 150-мі ўгодкамі Мілавідскай бітвы 1863 года, таму правядзенне другога мерапрыемства па гэтай тэматыцы не мэтазгодна".

Як адзначыў грамадскі актывіст Віктар Сырыца: "Арт. 51 Канстытуцыі Беларусі дае нам права на ўдзел у культурным жыцці. Мы амаль за 2 месяца падалі падрабязную заяву ў райвыканкам на правядзенне Мілавідскага фэсту, прысвечанага касінерам Кастуся Каліноўскага. Затым на працягу месяца заключылі дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай па абслугоўванню масавага мерапрыемства менавіта 2 чэрвеня. Я і Вячаслаў Болбат сустракаліся асабіста са спадаром Філанчуком і загадчыкам ідэалагічнага аддзела райвыканкама Дзмітрыем Варвашэняй і запрасілі іх і аддзел культуры райвыканкама на Мілавідскі фэст 2 чэрвеня. Ніхто нам не гаварыў, што на 2 чэрвеня ўжо запланавана нейкае афіцыйнае мерапрыемства і ніхто, зразумела, нават і не прапаноўваў нам іншую дату".

Віктар Сырыца лічыць, што ініцыятыўная група па правядзенню фэста выканала ўсе патрабаванні закона "Ад масавых мерапрыемствах". У райвыканкама не было аніякіх падстаў і зачэпак, каб забараніць правядзенне Мілавідскага фэста.

Грамадскі актывіст паведаміў, што ў нас яшчэ цэлы месяц і ініцыятыўная група па правядзенню Мілавідскага фэсту будзе думаць як годна адзначыць у склаўшыхся ўмовах слаўную дату нашай гісторыі.



# У МАГІЛЁВЕ СУД НЕ ЗНАЙШОЎ ТАГО, ХТО АБАЗВАЎ БСДП "БАНДАЙ"

**Тым часаў у актывістаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) няма сумневу – гэта зрабіў начальнік магілёўскіх інтэрнатаў "Магілёўаблсельбуда" Павел Шышоў.**

31 траўня, скончыўся судовы працэс, ініцыятарам якога была БСДП і яе сябар Мікалай Залозны. Пасля чатырох судовых пасяджэнняў суд Ленінскага раёна Магілёва ў асобе суддзі Андрэя Юрчанкі не здолеў устанавіць асобу, якая здзейсніла паклёп на адну з найстарэйшых беларускіх партый.

Нагадаем, што прычынай судовай спрэчкі стаў матэрыял, размешчаны ў інтэрнэце "У Магілёве з інтэрната высяляюць сацыял-дэмакрата Мікалая Залознага", які быў зроблены карэспандэнтам БелаПАН Алесем Асіпцовым і размешчаны на сайце інтэрнэт-газеты naviny.by 28 сакавіка 2013 года. У прыватнасці, падчас размовы Павел Шышоў, каментуючы працэс высяленне Мікалая Залознага з падначальнага яму інтэрната, паведаміў, што "ён знаходзіцца ў гэтай бандзе Грамада. Гэта яго партыя".

Пасля гэтага БСДП і Мікалай Залозны падалі іскі ў суд аб абароне дзелавой рэпутацыі юрыдычнай асобы і абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі Мікалая Залознага.

У суддзе Павел Шышоў паведаміў, што сапраўды яму нехта тэлефанаваў і пытаўся пра Мікалая Залознага, аднак партыю бандай ён не называў. Акрамя таго, чалавек, які званіў, не прадставіўся, не паведаміў, з якога ён сродка масавай інфармацыі і не папярэджваў, што будзе весці аўдыёзапіс размовы.

Пасля таго, як у зале суда быў праслуханы аўдыёрэпартаж Алеся Асіпцова, Павел Шышоў сказаў, што голас на запісу належыць не яму і што гэта з'яўляецца нічым іншым як мантажом.

Словы Паўла Шышова пацвердзіў юрыст "Магілёўаблсельбуда" Гарбузаў, які падчас тэлефоннай размовы з журналістам, нібыта, прысутнічаў побач і ўсё чуў.

Пракурор Палякова і суддзя Юрчанка некалькі разоў хацелі павярнуць справу так, што ва ўсім вінавата інфармацыйная кампанія БелаПАН, што яны размясцілі на сваім сайце матэрыял, які ганьбіць дзелавую рэпутацыю БСДП і абражае Мікалая Залознага.

Суддзя Юрчанка таксама адмовіў у праслухоўванні рабочага запісу інтэрвью, якое ў судзе было прадастаўлена журналістам Алесем Асіпцовым. Менавіта з гэтага рабочага запісу размовы з Паўлам Шышовым быў зроблены аўдыёрэпартаж. Там дакладна чуваць, што званіўшы журналіст прадстаўляецца, называе СМІ, якое ён прадстаўляе, а таксама пытаецца дазволу на запіс дадзенай размовы. На запісе чуваць, што Шышоў адкугаецца на пытанні Алеся Асіпцова, сам прадстаўляецца і месцамі даволі эмацыйна выказваецца ў адрас Мікалая Залознага.




Таксама суддзя Юрчанка не задаволіў хадайніцтва прадстаўніка ад БСДП у суддзе Ігара Барысава аб накіраванні рабочага запісу інтэрвью і аўдыёрэпартажа на фонаскапічную экспертызу. Пасля гэтага хадайніцтва паступіла хадайніцтва аб адводзе суддзі Юрчанкі і пракурора Паляковай, якое таксама не было задаволена.

Рашэнне суда каментуе намеснік старшыні БСДП Ігар Барысаў.

"Шышоў хоць і з'яўляецца афіцэрам міліцыі, палкоўнікам запаса, аднак паводзіць сябе далёка не як афіцэр. Я лічу, што калі б ён быў сапраўдным мужыком, то трымаў бы адказ за свае словы. Сказаў – прызнаў-выбачыўся! Усім зразумела, у тым ліку суддзі Юрчанку і пракурору Паляковай, што нашу партыю абзываў бандай менавіта ён і таму ёсць прамыя доказы. Рашэнне для суддзі Юрчанкі не было лёгкім, бо тут замяшана палітыка. Было заўважна як ён, пракурор і сам Шышоў падчас суду хваляваліся", - гаворыць Ігар Барысаў.

Намеснік старшыні БСДП кажа, што Шышоў разам са сваім юрыстам Гарбузавым падчас перапынкаў неаднаразова хацеў уцягнуць яго, Мікалая Залознага і праваабаронцу Барыса Бухеля ў палеміку.

Праваабронца Барыс Бухель адзначае, што няма сумневу ў тым, што рашэнне суда палітычна матываванае.

"Суд пазбавіў БСДП і Мікалая Залознага сродкаў даказвання, а потым сам абвінаваціў іх у тым, што яны не прадаставілі доказаў, хаця былі неаднаразовыя хадайніцтвы праслухаць рабочы аўдыё запіс размовы журналіста Алеся Асіпцова з Паўлам Шышовым і правесці фонаскапічную экспертызу гэтых запісаў. Калі б гэтыя хадайніцтвы былі задаволены, то ўсё стала яшчэ больш бы відавочным", - гаворыць Барыс Бухель.

Тым часам актывісты БСДП маюць намер абскардзіць судовае рашэнне ў абласным судзе, дабіцца фонаскапічнай экспертызы, а таксама выкласці ў сацыяльныя сеткі рабочы аўдыёзапіс размовы журналіста Алеся Асіпцова з Паўлам Шышовым.



САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ

Галоўны рэдактар
ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА
Бюлетэнь Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)
Надрукавана ў Магілёве на ксераксе. Наклад 299 асобнікаў
Распаўсюд бясплатны. Выраблены пра тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты «НАШ Магілёў» e-mail: gazetanm.eu@gmail.com

BSDP.ORG
сайт прыхільнікаў БСДП
bsdpps@tut.by
адрас электроннай скрыні БСДП